ІВАН РУБІН

НАРАДЗІУСЯ 29 СТУДЗЕНЯ 1954 ГОДА
НА ХУТАРЫ РАЗДОРЫ СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА
Ў СЯЛЯНСКАЙ СЯМ'І.
У 1971 ГОДЗЕ СКОНЧЫЎ ЗАСУЛЬСКУЮ СШ
І ПАСТУПІЎ НА ФІЛФАК БДУ ІМЯ ЛЕНІНА.
НАСТАЎНІЧАЎ НА УЗДЗЕНШЧЫНЕ,
ВУЧЫЎСЯ Ў АСПІРАНТУРЫ ІНСТЫТУТА
ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ Я. КУПАЛЫ АН БССР.
З 1979 ГОДА ПРАЦУЕ
НА БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ.
ПЕРШЫЯ ВЕРШЫ НАДРУКАВАЎ
У РАЁННАЙ ГАЗЕЦЕ «ПРАМЕНЬ».
ДРУКАВАУСЯ
Ў РЭСПУБЛІКАНСКІХ ГАЗЕТАХ
І ЧАСОПІСАХ.

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Іван
Рубін

# НАД ВЕЧНАСЦЮ ГНЯЗДА

**Вершы**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1984

# ДОМ

## ДОМА

Знаёмы свет і родны дом,
Дзе бацькаў след не запыліцца.
Заб'ецца трапяткім крылом крыніца,
Напоўніць з венцамі маё вядро,
Астудзіць казытліва твар і пальцы...
Зноў несці мне ваду і памяць...
А жнівень яблыкамі грукае ў акно.
Барвовага заходу чыстае радно —
Ранеты спеюць у прыціхлым садзе.
І я па-чалавечы буду рады,
Што і для шчасця трэба не так многа:
Знаёмы свет, знаёмая дарога
І з цёплым сырадоем цёплы вечар,
Дзе зорка ападзе ў вядро, як вечнасць,
А мама прынясе у конаўцы напіцца...
Уночы будзе доўга бацька сніцца.

* * *

Галіняцца далёкія маланкі,
Каб расшчадрыцца веснавым дажджом.
І маладзее мой старэнькі дом
Ад свежасці крылатых струн,
Якія зімапіс расплешчуць і сатруць
Мелодыяй бурлівай, выбуховай,
Што з ветрамі за вокнамі буркуе.

Які мне лёс зязюля накукуе
За срэбнаю наміткай абнаўлення?
Вясёлкава дажджу вільготныя калені
Засвецяцца ў чаромхавай прасторы.
Быцця й вясны зямная непаўторнасць
Напоеная буйнаю сінечай,
Дзе сонца дзецьмі перакулена ў траву!
Я радуюся, плачу і жыву,
Пакуль жыцця зялёны сцяг трапеча.

## ЯБЛЫКІ

Збіраюць не яблыкі —
Успаміны.
Знімаюць цяжар,
Што ломіць галіны.
Золата саду
І цёплай саломы —
Жнівень не помніць
Зялёнай аскомы.
Толькі ў лістоце
Мільгае, як знічка,
Дзяўчынка-суседка —
Зялёная дзічка.
Празрыстасць і спеласць,
Лагода
І згода.
Якая шчаслівая
Сёння прырода!
Скрэслены дробязі,
Страчаны страты.
Ветла нядзеляцца
Маці і хата.

Спеўна ў лістоце
Мільгае, як знічка,
Дзяўчынка-суседка —
Зялёная дзічка.
Яблыня-грэшніца.
(Звычайнае дрэва,
А от жа звяло
І Адама, і Еву!)
Кружаць і хмеляць
Крамяныя гукі.
Можна паблытаць
І вусны, і рукі.

### ХЛЕБ

Легендаў пра хлеб не кажыце...
У коласе кожным легенда.
Як толькі даспее гарачае лета —
Жніво перапёлка абвесціць у жыце...

І з новага хлеба завозна ў млыне:
Дзядзькі размаўляюць, цыгаркі сліняць,
Пахрумстваюць коні павольна і квола,
І круціцца шумна турбіннае кола.

У бацькі белыя вусы, белыя бровы...
Колы рыпяць заспана-санліва.
Поціскі моцныя. Простыя словы
Падзякай гучаць млынару — за мліва.

Легендаў пра хлеб не кажыце,
Бохан вясковы радасцю будзе.

Акраец бяру я з сабою ў дарогу,
Хлеб не чарсцвее —
чарсцвеюць людзі.

* * *

Сцяжынка мая супясчаная,
Радзіма родная мая.
Сцяцкі, Гераіня і Ячнае...
Да слёз, да адхонаў зямля
Знаёмая мне васількамі,
Гаючым трыпутнікам і зверабоем,
І жытам, што ціха шуміць.
Літоўка ля Яна пяе і звініць
За гумнамі і агародамі...
Да кожнай былiначкі родная
Дарога мая вузлаватая
З калодзежам, ціхаю хатаю
Да дробязяў мілая ўся.
Да кожнай бярозы прыветная,
Да кожнай галінкі свая.
І радасць ліпнёвая, светлая
Цвіце гаркавата і сцішана,
Ружовіцца раннімі вішнямі.
Дарога мая ды суладная
І з думкамі, і з настроем.
Там дзесьці лясным прыбоем
Быў мой хутарок закалыханы.
Ягонай зялёнаю азбукай
Я зноў на радзіму закліканы,
Дзе бацька ўжо на двары
І мама дадому рупіцца...
Сцяжынка мая супясчаная...

Няўжо так раптоўна аступіцца,
Травой зарасце, гарыцветам,
Як серп пад страхою, пазубрыцца
І хутар растане, як ветах.
...Адзіным на ўсё запаветам
Радзіма,
Сцяжынка і горкая й светлая.

### УСПАМІН

За Стоўбцамі на поўнач Наваполле.
Далей — сасновыя бары да Налібокаў.
Адсюль да Нёмна недалёка...
...А тут — павольна круціць млын Сула.
А з-пад птушынага крыла
Відаць мае прыціхлыя Раздоры.
Вятрам за абалонаю раздолле
Знаёмай лугавінаю да хат
Падкрасціся, як цыгану, да коней,
Дзе змрок дымамі ўвесь прапах.
Зноў шэры вечар, нібы кацяня,
Задрэмле ў маміных далонях,
Засвеціцца святло у родных вокнах,
Зацепляцца і падабрэюць вочы
У бацькі, што чаруе каля грубкі.
Бярозы мне насустрач купкай
Павольна выбегуць з-за павароткі
На шлях шчаслівы, шлях кароткі,
Што поўняю асветлен зімна.
Мой светлы лёс, мая радзіма,
Ты больш дала надзей, чым страт,
Каб зноў прыйсці да гэтых хат
І да цябе адзінай.

* * *

Стоптаны стары парог
Будзе цёплым успамінам.
Памяць жураўліным клінам
Згубіць першае пяро.

І дарога ўсіх дарог
Карацейшая дадому.
І няма яшчэ трывог,
Пакуль чую матчын гоман.

Хлеба болей не пякуць.
І астыў парог даўно.
Бацька не глядзіць ў акно,
Вернецца сынок пакуль.

Мнеісці балюча доўга
Да сумежных тых узгоркаў.
Даўка ў горле, надта горка
Ад нясплачанага доўгу.

Цвік ў сцяну ці ў дамавіну —
Забіваецца акно.
Невядома мне адно,
Як я гэта ўсё пакіну.

* * *

Залежнасць мая ад хлеба,
Ад роднага дома і неба,
Ад матчынай мовы і слова
Залежнасць мая не новая.

З Сулою, з дарогай вясковаю,
З Ячонкамі і Наваполлямі
Залежнасць мая шматпольная
З старымі і новымі песнямі,
З дзявочымі ўсмешкамі веснімі,
З расплатай за клятвы юначыя.
Залежнасць ад дзён нерастрачаных
Жыве ў душы, як патрэба.
Залежнасць мая ад хлеба,
Ад роднага дома і неба.
І пэўна, не жыць мне без гэтага...
Хай будзе бясконцай і вечнаю
Залежнасць мая чалавечая.

## РЫБАКІ НАДНЯМОННЯ

Усё на пасля і на потым,
Адкладзены справы на дні.
А хлеб рыбацкі і соллю, і потам
Замешаны шчодра...
Адным
Хіба што імкненнем жылі —
Для нас берагі зберагчы,
І неба празрыстае,
і пласкадонку...
Ідуць рыбакі —
Паданні жывыя...
Падпятае ветрам
светлае ранне
Скупыя ўсмешкі палошча.
Жыццём на вадзе —
лёс іх пазначаны.

На радасці —
шчасці —
скупыя гады.
Развяслованы сонца дыск
Услед рыбакам
паплыве за ўдачай.

* * *

Спелае жыта.
Выспеюць зоркі.
У краі абжытым
Нагам не золка.

Не пасынкам дома.
Памыта падлога.
Знаёмы вяскоўцам,
Аблогам вядомы.

Схіліцца ніцма
Вочап над студняй.
Вусны астудзяць
Гарачую знічку.

Стомлена мама
На прызбе прысядзе.
Глядзяцца прысады
Ў аконныя рамы.

Спасам наспелым
Цнатлівыя вусны.
Рачное вусце,
Белая пена.

Колькі пражыта,
Будзённасці золак? —
Выспеюць зоркі —
Спелае жыта.

## ПАМЯЦЬ

Журавель зарыпеў трывожна,
Пакланіўся да самай зямлі.
Зарастае травою дарога,
І сляды мае заплылі.
На кроплі рассыпаўся клёкат
Бусліны ў вячэрнім тумане.
Вады прыгубіў я таксама
І хутар пакінуў адзіны.
За ваколіцу выйшаў далёка,
Агляну́ўся — ў самоце радзіма;
З дакорам, на ўзгорку — мама.

## НА БЕРАЗЕ ТЫМ

Гусі на беразе тым.
Крычаць з маладога туману.
Сляза на вачах, нібы дым.
Прачнуся. На беразе тым
Гусі крычаць.
Там маленства і мама...

3 Зак. 4157

Вёслы натужна ўздыхнуць.
Хвалі гаркава
Заплешчуцца ў сэрца прама.
Гусі крычаць. Мне не заснуць.
Там памяць і мама.

Моўчкі на бераг ступлю.
Гусі крычаць. Адлятаюць.
Душой ачарсцвелай паціху адтаю.
Гусі прыціхнуць таксама.
Рукою падаць:
Радзіма і мама.

## ВЯДРО ВАДЫ

Бушуюць войны
І мялеюць рэкі.
Гудзе зямля,
Як касмадром.
Зноў бачу маму я,—
Ступае на парог
З вядром вады —
Напоўненым вядром.

Ідзе яна,
Як паратунак
Ўсяму жывому на зямлі,
Каб хмары чорныя сплылі
І распагодзілі дабро.
Ідзе матуля
І нясе
З вадой крынічнаю
Вядро.

Дзяцей пакліча
І памые,
Напоіць цёплым малаком.
Засне спакойна родны дом.
І мама
З думкаю адной:
Каб і зямля —
Шчаслівым сном.

Вярнуся зноўку
Праз гады.
Шуміць, шуміць рака.
Вазьму вядро
І прынясу вады...
...Вядро вады,
Што мама не данесла
Ў сваіх руках.

## ПОЛЕ

Поле, поле!..
Я тваім ніколі ўжо не стану!..
На адной спалоханай вярсце
Палыном-травою след мой зарасце,
Забялее вэлюмам з туману...

Прыручэнне голасу твайго
Ўзгушкана балюча непасільнай ношкай.
Што затояць вочы, поўныя валошак
З перакуленаю ў неба галавой?

Разаб'ецца шчасцем у прыполе
Злоўлены прастор гарачай жменяй.

Разлюбі-забудзься, як цыганка, вымяняй
Дарагое задурманенае поле.

Незгаданая мая ты нечаканасць.
Па-птушынаму даступнае і дарагое.
І грудзей тваіх запалавелае нагор'е
Не мяне прысніла, прычакала.

## ГРАНІ

> Тревожно мне в городе Минске,
> как будто живу без прописки
> и книгу мечтаю издать.
> Игорь Шкляревский

Трывожна мне ў горадзе Мінску —
Каторы ўжо год без прапіскі,
Ні дому свайго, ні двара.
Прыбіцца дзесь недзе пара,
Як птаху, да нейкай аселіцы.
Звіе той гняздо і заселіцца,
Як сіняе вочка пралескі
Праклюнецца цёпла на ўзлессі
І рэхам вясновым знавіску
Напоўніць шумліва зацішак...
Трывожна мне ў горадзе Мінску.
Ці я гараджанін,
ці проста ў адгуле?
Кукуе бяздомна зязюля,
Што хочацца й мне кукаваць.
І што гаварыць — прыказаць:
У вёсцы чужы, як і тут.
Нікога знаёмага аж за вярсту,
Зноў бераг сустрэчы ў тумане.

Зблiжаю,
Сцiраю нязнаныя гранi,
Ступаю,
Іду як па вузенькай дошцы...
І раптам балюча захочацца жыць
Адразу i ў горадзе неяк, i ў вёсцы.

## ЖОРНЫ

Б'ецца, б'ецца млынавае сэрца,
Нiбы птушанятка ў каменных руках.
І палоскай белаю бясконца сеецца
Белая i шэрая, цёплая мука.

Белая — у белы. Шэрая — у шэры.
(Як i людзi, не падобныя гады.)
Цi муку, цi днi пераціраюць жорны.
Радасцi людскiя, сцежкi i сляды.

Сеюцца надзеi i скупыя слёзы.
Быццам на пратэзах, фунты ўдоў
Мелюць жорны. Шэрыя бярозы
Па адной праводзяць згорбленых дамоў.

У пашане жорны i зiмой, i летам.
Круцiць iх настырная вада.
Перамелюцца гора i бяда.
Новы дзень узыдзе светлым.

Ад мукi i часу млынар пасiвее.
Зарасце травою цiха канавязь.
Маладзенькi ельнiк буйна зелянее.
Згорбiцца на пляцы адзiнокi вяз.

І не б'ецца болей млынавае сэрца,
Нібы птушанятка ў каменных руках.
І палоскаю,
Бясконца белаю, не сеецца
Белая і шэрая, цёплая мука.

* * *

Ад гурту верб
старых,
пахілых
Бярозка выбегла на плёс.
Яшчэ яна, мая бярозка,
Не стала роўнай між бяроз.
...Усё часцей,
часцей трывогі
Над чысцінёю азярца...
Яшчэ не сходжаны дарогі
Майго юнацтва да канца.
Яшчэ не спета многа песняў,
І мой, пакуль, бясхмарны лёс.
Яшчэ яна, мая бярозка,
Не стала роўнай між бяроз.

* * *

Вясна маладая, як свята.
Чыстыя родныя сенцы.
І слухае чуйнае сэрца
Ціхую светлую хату.

Чаромху засыпала ўночы
Цёплаю белаю ватай.
Дзявочыя светлыя вочы —
Ні кропелькі суму, ні страты.

На ўсходзе туман рыжаваты.
З вадою спяшаецца мама.
І ў гэтым вясеннім храме
Калодзеж рыпіць вінавата.

## ВАДАПОЛІЦА

Вадаполіца, вадаполіца...
Шум вясенняе вады,
Дзе размыты ўсе сляды
І нявесціцца ваколіца...

Свет такі знаёмы, родны
Будзе зноў надзеі гушкаць.
І адтуль, з дзяцінства родам,
Прылятаюць нашы птушкі,

Каб чыю загнездзіць памяць,
Засяліць чыесьці душы?..
Астраўкамі паміж намі,
Як радзімкі, кроплі сушы...

Пэражыта і забыта
Столькі дзён, падзей і датаў.
Толькі бусел кружыць, кружыць
Над разводдзем нашых стратаў.

Над прыціхлым Наваполлем,
Над знаёмым родным домам,
Дзе чаромхавая замець.
Значыць, свету быці добрым,
Покуль бусел, дом і памяць.

* * *

Дрэвы мяне чакаюць.
Лісты ў пілатажы крутым.
Шчымліва казычацца дым
І німбам над садам лунае.
Шумяць наваселлі птушак,
Дрэвы вітаюць дзяцей.
З імі святлей і цяплей
Гнёзды птушыныя гушкаць.
І я асцярожна таксама
Ўваходжу ў тыя гады —
Басаножжам світаюць сляды
І па калена штаны падкасаны.
Радзіма мяне чакае
З важкасцю спраў маладых.
І з маміных слоў, за дваіх
Падрастаю і я, падрастаю.

## СПАТКАННЕ

Якая выдалася ноч у верасня на схіле!
Нібы вятры, нібы дажджы яе малілі
Суцішную і светлую ў тумане па калена.

На дальнім поплаве на стозе
Злінялы месяц прытаміўся і залее.
І сілуэты верб над ім схіліліся,
як сёстры.
Якія дні, якія вёрсты
Мяне закінулі сюды, у гэту памяць,
У гэту замець восені і лета,
Каб падаць, нібы яблыку, ў атаву,
Маўчаць і слухаць,
як вада шуміць за ставам
І разбіваецца,
нібы падстаўлены твае далоні,
Што да святла хацелі дакрануцца.
З душой прасветленай я змог вярнуцца,
Хоць пацяжэла маладая памяць
І на магіле бацькавай
абвугліліся пальцы.
Па трох дарогах змог вярнуцца,
Каб слоў святых ніколі не парушыць,
Каб зноў ісці і падаць, спатыкацца
Да родных хат праз родны небасхіл.
Каб зноў з радзімаю спаткацца,
Мне хопіць сіл!
Мне хопіць сіл!..

## ВЁСКА

Вось яна і скончылася, вёска.
З плыўкаю дарогаю старою,
З буславым гняздом па-над страхою,
З маладою памяццю маленства,
З жураўлём прыгорбленым сярод двара
Адзвінела песнямі яе пара.

4 Зак. 4157

І не бачу ў гэтым болей страты.
Толькі сэрца затрапеча раптам.
Бліснe рэчка сіняю палоскай.
Выйдзе маці. Схіліць галаву.
Паглядзіць, каго я ў цішыні заву...
Вось яна і скончылася, вёска,
Ціха адышла...
Вокнамі забітымі глядзіць.
А мне жыць і жыць...
Вось яна і скончылася, вёска.
Гэтаму і верыш і не верыш.
...Болей першакласнікі
Не патрывожаць верасень.

## МОВА

Чорны дзень вароніцца
Беларускімі гонямі.
Не была прыгоннаю —
Была забароненай.

Не была купечаю,
Не была ты панскаю,
Не звінела пасквільна
Трохграшоваю капейчынай.

А была Купалавай
Праўдаю мужыцкаю.
Перапёлкаю ў жыце,
У небе буслам плавала.

# НАД ВЕЧНАСЦЮ ГНЯЗДА

* * *

Над вечнасцю гнязда
Шчыруе птушка.
Жанчынам гушкаць,
Дзяцей раджаць.

Над вечнасцю гнязда
Сінее неба.
Пазнай смак хлеба —
Шчаслівы дар.

Крынічная вада
Астудзіць грудзі.
Клапотна будзе
Над вечнасцю гнязда.

Хай абміне бяда —
Ліхая пошліна.
Дзіцячы пошчак
Над вечнасцю гнязда.

* * *

Уночы дажджамі прамыты
Напоўніцца горад азонам.
Косяць траву на газонах,
І луг усплывае забыты.

Косяць у парках сталічных
Задоўга яшчэ да сезона.
Ссівелы касец сімвалічны
Вострыць касу без звону.

Вострыць, нібы ўспамінае
Луг за Сулою, за домам.
Лёгкім шчымлівым звонам
Звіняць серабрыстыя маі.

Хінецца забытым раем
Трава, як і сум адзінокі.
Далёка, далёка, далёка
Да тых Рубяжэвіч і Налібокаў.

Да вёсен і летаў шчаслівых
Сцяжынка вузее ў тумане.
Спяшаюцца ўсё гараджане,
Спеюць далёкія ліўні.

А ўночы дажджамі прамыты
Напоўніцца горад азонам.
Косяць траву на газонах,
І луг усплывае забыты.

* * *

Вырасла птушка.
Спрабуе крылы.
І да адлёту ўжо хутка пара.
Хочацца верыць у вечнасць дабра...
Вырасла птушка.
Спрабуе сілы.

Хочацца верыць у вечнасць гнязда.
Бясконца. Як маці ў сына.
Хочацца верыць у вечнасць радзімы.
І на вяртанне надзею ўзгушкаць...
Вырасла птушка.

## НАЛІБОЦКІЯ МАДОННЫ

Рыбацкая Венера —
Вера.
Сустрэча
Вусны салёныя апячэ.
Абветрыць —
Сум адзічэлых вачэй —
Сіняе прадонне.
Рыбачка — як пакінуты дом.
У налібоцкіх мадонн
Чакання сезон,
Зноў белыя-белыя плечы
Мякка захутвае восень.
Рыбачкі пяшчотна носяць
Тайны вечныя,
Пацалункі скупыя,
Дарагія, святыя
Радзімкі
Жаноцкай
Вернасці.
(Мужчыны вернуцца.)
Мадонны ўсмешкамі таюць.
Світанне
Грудзей сарамлівых
Прарастае цнатліва

Світальнай белізной,
Як сустрэча,
Як раскатаны
На лузе сувой.
Паміж Нёмнам,
Сулой
Родны свет
І такі дарагі.
Ідуць
Налібоцкія мадонны,
Чыстыя,
Як першыя снягі.

* * *

Разгайданае неба — высока.
Поўныя вёдры, як вока.
Аціхне спалоханы вочап.
Вада ледзяшамі дзынькае.
Адна на дваіх сцяжынка,
Як размінуцца не хочацца.
Прасторна душы, як полю.
Як быццам з-пад снегу кветкі.
Вясновы пагляд суседкі
Імгненне ўсяго — не болей.
Знячэўку спалохана песня.
Па пояс снягі прадвесня.
Вясёлае рэха далёка.
І поўныя вёдры, як вока.

* * *

Снягі... І студзень на зыходзе,
Як лыжнік, пад гару бяжыць.
Вятры вяртаюць прагу жыць,
І ў беласнежным карагодзе
На даляглядзе трызняць вусцішна.
І некранутаю калінай вусны
На холадзе цвітуць і спеюць
Пад звон падсіненых нябёс.
Пунцовую каліну не данёс,—
Далонь мне нечакана апякла,
Як адзічэлая, твая рука.
І дум маіх падлёдная рака
Бруіць забытаю пагрозай.
А пачуццю наіўнаму марозна,
І адначасна цёпла, і адліжна,
Як і снягам у сінім смутку.
А студзень вусны й рукі студзіць
І пад гару бяжыць, як лыжнік.

* * *

Перасохне брод.
Вельмі душна.
Асушэнне балот
Ці душаў?

Асушэнне ракі —
Па калена Сула.
Чалавечай рукі
Нічым не суняць.

І калодзеж капаюць
Глыбей і глыбей.
Душа ці рака,
Што мялей?

Бедалага-звярок —
Быць бядзе.
Ненажэрны курок —
Няма месца нідзе.

Перасохне брод.
Вельмі душна.
Асушэнне балот
Ці душаў?

* * *

Адпачынак скончыўся. Ад'язджаю.
Адлятаю за птушкамі ўслед.
І маўкліва мне памахаюць
Тры бярозы і згорблены дзед.

З хутарком бы яму развітацца,
У горад паспець да пакроў...
Там толькі ўночы не сняцца
Ля бяроз тры магілы сыноў.

* * *

Вёсачку неперспектыўнаю завуць.
Вёска патанае ўся ў садах.
У бабы Мотры працякае дах,
А яна махне рукой:
— Пэўна, пералетую як-небудзь.
І глядзіць з надзеяю на неба.
К восені сыны прыедуць.
Можа, іх адпусціць як яно.
Журавель шчыміць, вядро — на дно,
Разгайдае воблачка ўнізе.
У яе
Запісана ў працаднёвай кнізе
Рукой нязграбнай да пісання:
Верасень — іх час вяртання
У чарговы адпачынак. Летуны.
Пра сыноў ласкава так гаворыць.
З'едуцца ўнукі і сыны,
Пажывуць на бульбачцы, на сале.
Баба Мотра прыбірае ў зале
Кожную пылінку так старанна.
Што тут ні кажы, а ўсё-ткі гараджане,
І сатрэ слязінку сарафанам.
Вось бы глянуў ты на іх, Змітрок.
Як павырасталі ўжо сыны.
Мы ж з табою толькі тут адны...
Вёсачку неперспектыўнаю завуць.
Вёска патанае ўся ў садах.
У бабы Мотры працякае дах.
Баба Мотра лічыць дні.

* * *

Незваротнасць вострая, як боль.
За плячыма і гады, і даты.
І жыццё, як быццам толькі соль,
Сыпле на няўдачы і на страты.

Быццам захілілі ўсё дажджы
Шэраю вадой, трывогаю адзінай.
Толькі постаць светлая радзімы
Зноў вяртае прагу жыць.

* * *

Чэрствага хлеба скарынка —
Скарына.
(Беларусам нельга скарыцца!)

Знічка на шчасце ўпала —
Купала.
Беларусь навізной прарастала.

Мацнеў малады яе голас —
Колас...

* * *

Імгненне — матылёк жыцця.
У людскія аканіцы б'ецца.
Дзе радасць светла адгукнецца,
Імгненне — вечнасці дзіця.

Дабра і зла імгненне.
То яснасць, а то воблачнасць быцця.
Імгненне — матылёк жыцця.
Маё з тваім збліжэнне.

* * *

Восень... Дождж ды вецер.
І, здаецца,
Я адзін на цэлым белым свеце.
І ў адным маім акне святло.
Восень... усё вадою заліло.
Сярод лесу прытуліўся хутарок,
Як загнаны і спалоханы звярок.
Толькі дзічка-яблынька азябла.
Стукае ў шыбу, у хату просіцца.
Восень... Ноч аднагалосіца.
Чысты
Белы ліст маёй тугі...
А за садам ціха падаюць снягі.

* * *

Забывае век дваццаты казкі.
Болей пахне дымам, чым травой.
Мама, мама, дзе спыніўся твой сувой,
Пранік над якім заціхнуў плёсам.
І стаміліся навекі кросны
З посцілкай знаёмай — сем нітоў.
Памаўчу я, не знаходжу слоў

За абрусам родным, белым-белым...
Пазіраюць ручнікі нясмела,
Быццам і яны ўжо не ў пашане.
Людзі... мілыя вяскоўцы, гараджане,
Дык з чыёй віны, якое ласкі
Забывае век дваццаты казкі?

* * *

Лёгка плешчацца хваля.
Сунімаецца ў па́лях.
Песняй ціхаю матчынай
Нанач просіцца, лашчыцца.

Неба зоркамі высеяна.
Адзінотна і добра.
Стог. Рыбацкая роба.
Пахне мёдам і сенам.

## ВЯСЕЛЬНЫ ФОТАЗДЫМАК 1941 ГОДА

Вясельны фотаздымак 41 года
(Фатограф працаваў старанна) —
Ілюзія шчасця кароткага
З адвечнаю прагаю жыць —
Думалі, што на гады —
На лічаныя дні маладым.
Бруістыя вясеннія дажджы
(А хутка пачнуцца й свінцовыя).

І песня застольная
пра Марусю, Івана
Усплыве далёкім прылівам
Старэнькай пласцінкі.
Вясёлы вясельны фотаздымак,
Твой контур ценявы
Зацягнуты дымам, зажураны,
Пажоўклы
Узыдзе для нас.
На мушку брала яго
І прыжмурана,
Смяртэльна
Цэліла ў сэрцы вайна маладым...
Вясельны фотаздымак.
Усмешкі на тварах...
Здаецца, вось-вось
Сыдуць з ганка
Па сходках рыпучых
Да нас праз гады,
Да нас —
маладых
З застольнаю песняй
Марусі, Іваны...
Маладыя 41 года.
А памяць бязлітасна раніць
Слязою скупою і горкай
Адзінокай жанчыны.
Вясельны фотаздымак 41 года
Навылет прагорклы —
Скразная рана.
Колькі раз расстраляна
Адзіная памяць тая,
Адзіны той сведка,
Вясельны фотаздымак...
Да падножжа кладуцца
Жывыя кветкі

І лёгка схіляецца вэлюм.
...Вельмі, хутка ўжо вельмі
Зацягнецца дымам,
Зоймецца полымем
Аселіца тога вяселля
Вайною...
Вайною над Белай Руссю.
Вось вам...
песня пра Івана.
Вось вам...
песня пра Марусю...
Што да нас, маладых, не прыйшлі
Маладыя 41 года...
Вясельны фотаздымак.

### КАМЕННАЯ БАЛАДА

Скамянее жыта,
Скамянеюць кветкі,
Скамянеюць вішні,
Скамянеюць вершы
Сорак першага.
Час на гэтым камені напіша
Вечныя заўвагі.

Палымнеюць —
Спалынеюць
Дымныя шляхі
З грэкаў у варагі.
Пыл уедлівы, агорклы —
Гора горкае.
І клубком бяда,
Як пятля,

На перасмяглым горле.
У вечнасць
Крык дзяцей,
жанчын
І старых маўчанне.
Выплаканыя,
Як выкляваныя раны —
Вочы,
вочы,
вочы...
І ноч...
І дзень
чарней ад ночы.
На старым дзядзінцы
Танкі, танкі,
чужынцы —
Не людзі —
Нелюдзі-фашысты.
Топчуць боты
І кветкі,
і жыта,
і жыцці.
А пры дарозе хлопчык
Босы, расшарпаны,
русагаловы
Захлынаецца над жанчынай:
— Ма-ма! Ма-ма! Ма-м!..
Мамы... няма...
І плачуць адчайныя словы
Над дарогай,
Сусветам,—
Не ламіце дрэўцаў!
Не тапчыце кветак!

Скамянее жыта,
Скамянеюць кветкі,

Скамянеюць вішні,
Скамянеюць вершы
Сорак першага.
Час на гэтым камені напіша
Вечныя заўвагі —
Не ламіце Дрэўцаў,
Не тапчыце Кветак,
Не тапчыце Жыта,
Не губіце Жыццяў.

## ЗЯМЛЯНКА

*Байцам студэнцкага будатрада*
*«Буравеснік-74»*

Дзвесніца,
Душагубкі на прыколе аб нечым раяцца.
Санлівая раніца
Заржаўлена рыпне весніцамі.
Выкаціцца таропка з-за лесу
Сонца даспелаю дыняй.
Няма гаспадароў —
Адны гаспадыні.
Малец басаногі за статкам
Адстрэльвае хлёстка.
Дзвесніца — партызанская вёска.
І, быццам стрэл зрабілі,
Змяяцца сінія пасмы дыму.
І на востраве Добрым
Сярод балот і вады —
Няхітры пейзаж,
Простая геаграфія:
Пахне свежаю фарбай падпольны абком,
Падпольная друкарня.

І замест стала —
Пень смалісты.
Малады партызан галаву ўнурыў,
Піша, гарачы ад бою, ў чарговы нумар...
...Цішыня.
Раніца.
І на востраве Добрым
Сонца добрыцца,
Прыемна ўсміхаецца...
...А мы зямлянку Казлова аднаўляем.
Памяць сваю абнаўляем...

## ПАСЛЯВАЕННЫ ЛЕС

Мой лёс
Нечым падобны
На пасляваенны лес,
Што ведае ўсё,
Што помніць усё,
Бо вырас на попеле,
На крыві старога лесу.
Праўдзівей —
На пустым месцы —
Самасадам,
Не густы і не рэдкі,
Са сваёй удзельнай вагой.
Пасляваенны лес...
Ён не бачыў старога лесу,
Але памяць аб ім жыве,
Як памяць аб вайне.
Пасляваенны лес —
Пасляваенны лёс!

Ён мае права
Сказаць аб вайне,
Аб старым лесе,
Які не значыцца
Ні ў якіх спісах,
Якому не ставілі ні помнікаў,
Ні абеліскаў.
Пасляваенны лес —
Мы адзін аднаму давяраем,
Мы так паяднаны,
Што ўваходзячы,
Не думаю,
Хто да каго ідзе.

* * *

Няўжо я ў чымсьці вінаваты,
Што ў соснаў тых пасляваенных
Такі няшчодры смалазбор,
Такі гаркавы медазбор?!.
Дый бор — правалы ў ім.
Не вернеш гэтых стратаў.
Лёг зрубамі недаўгавечных хатаў
З паспешнаю тапорнаю работай,
Каб вывесці хутчэй з зямлянкаў.
І хоць звінела скупа шклянка,
Жылося шчодраю надзеяй.
Не мы —
А выбірала нас нядзеля.
Не лес —
А выбрала яго радзіма.
Бацькі давалі нам імёны
Такія простыя.

Паклонаў
Не білі і не збіраліся нікому.
...Бабуля
Старую пераносіла ікону,
Каб ліхалецця ў хаце не было.
Пакрыху багацела за сталом...
І навальніца першая,
Забыўшыся, спаткнецца за сялом.
І — мірная — спадзе за лесапілкай.
І мы — пасляваенныя — расцём,
І лес — пасляваенны — кожнай жылкай.

* * *

Каго мне пазнаць, як не сяброў сваіх,
Каго не абысці прыветным добрым словам,
Хоць час былыя прынцыпы і звычкі ломіць,
Ды ўсё-ткі свой я сярод іх.
Каго мне пазнаваць, як не сяброў сваіх,

Раскіданых па свеце дарогамі і лёсам,
Дзе новыя сустрэчы адстукваюць нам колы,
І радасна яшчэ пакуль, і светла так
наўкола,
Калі збірае час, як птушка, пад крыло ўсіх.
Каго мне пазнаваць, як не сяброў сваіх,

Якія пры сустрэчах стрымана абдымуць,
За добраю бяседай, за чаркаю не кінуць,
Як і ў студэнцкім цесным нашым коле,
Дзе ўсё пароўну на дваіх.
Каго мне пазнаваць, як не сяброў сваіх...

# ПТУШКА РАДАСЦІ

* * *

Якая яна, птушка кахання?!
І дзе будзе віць гняздо?
І што гэта будзе: дом ці крыло,
Ці вольная воля, ці, можа, сіло?
Якая яна, птушка кахання?!
І ў клетцы заб'ецца чыёй?
Што прынясе: цішыню, неспакой?
Вось яна, птушка кахання,
Вольна ў блакіце лунае
І б'ецца пяшчотна ў клетцы грудной.
Навошта ж лаўлю я рукой.
Вось яна, птушка кахання...
А на далоні толькі пяро.

* * *

Не трэба слоў...
Маўклівы зарапад.
І колькі ні лічы —
Саб'ешся з ліку.
А шчасце ноч нясе
Ў каўшы
Мядзведзіцы Вялікай.
І многа браць
Не трэба нам адразу.

Як добра:
Гэты свет нічый,
А ты мая.
І мы з табою разам.

* * *

Пажоўклае лісце казыча,
Сарамлівым холадам студзіць калені.
Пераспелая поўня апоўначы рушыць.
На грудзі апалі дзве спелыя грушы,
Дзве спелыя грушы. І верасень з мёдам
Бурштынавы, празрысты наскрозь
Гайдаецца поўнымі вёдрамі
Апошняй вясёлкі,
Што вісне рукой скамароха.
У смутку аціхне дарога
І голас маланак асіплы, далёкі.
А ты
Цяплом захінула і целам
Гайдаеш, як мора ў поўдзень,
І лета, і лета... помніш?!
Здаецца, што сэрца ад шчасця трапеча
І падае, быццам лісток барвяны...
Адзіная, чаканая...

* * *

Зноў прыйдзе позняе цяпло,
Нам срэбраным засвеціцца адлівам.
Жыву паміж адлівам і прылівам,
Натрудзіўшы надзей вясло.

Зноў прыйдзе позняе цяпло.
Сваю трывогу даўнюю развею.
Шуміць асенняя завея
Пад жураўліным стомленым
крылом.

Зноў прыйдзе позняе цяпло.
Вярнулася як быццам лета.
У садзе пераспелыя ранеты,
І восені чароўнае радно.

Зноў прыйдзе позняе цяпло.
І мы з табою ім сагрэты.
Здаецца, на дваіх адна планета.
І на дваіх адно акно.

* * *

Хай будзе радасць ціхай верай.
І зберажэ сляды пясок...
Нячутна адчыняю дзверы,
Дзе наш світае першы крок.

Цнатліва жнівень і палынна
Даспее гронкамі грудзей.
Да знічак першых і надзей
Грахі чые цвітуць нявінна?

Прапахне мёдам цёплы вецер.
Жаданнем вусны затрымцяць.
І так шчасліва не суняць
Раскрылле рук тваіх увечар.

* * *

Бывай, вясна, не выспела ты ў лета.
Расстаннем вусны не сагрэты.
Застаўся горкім подых шчасця.
Кароткае твайго дабра прычасце.
Бывай... І памаўчым аб гэтым.
Мая вясна, не выспела ты ў лета.

* * *

Не крылом журавель,
У акно — сініца.
Мне рамонак прысніцца
У траве-мураве.

Не суроч мне дарогі
І вады дай напіцца.
Не кляніся парогам —
Падкажы, дзе крыніца.

Там чаромхавы холад
Злёгку плечы астудзіць...
Ты павернеш ад студні
Нечакана і молада.

Я пазнаю здаля —
Твая постаць свіціцца.
За цябе я, сініца,
Хоць цяпер — жураўля.

* * *

Рукі.
Лёгкія вечарам,
Мяккія ўночы.
Штосьці сурочаць
Светлыя вочы.

Крокі.
Чуйныя, ціхія
(Мама не ўчуе).
Погляд вяшчуе
Шчасцейка ліхое.

Ты.
Пасцелейку сцелеш
Пудка, нясмела.
Пругкая спеласць
Лябёдкаю белай.

Ноч.
Хітрая звадніца
Хмеліць, цалуе.
Слёз не даруе
Новая раніца.

## ВІНАВАТАЯ БАЛАДА

Зноў свята гаркаты. Прастуджаныя сны,
Зноў будзе зімна нам у першы дзень
вясны,
Захопленым вятрамі ўсіх дарог.
Не вінавата ты. І не дарэчы бог.
Я не збярог. Я не прыйшоў на свята.
Не вінавата! Адзін святкую страту.
Расстанне — поўняй. Надзей згарэлых
Попел чорны... Асыплецца з вачэй
вішнёвых
Да ног маіх. Як нашы словы.
Што я ўзамен табе аддам? Палову?
Каханне? Узыдзе дзень расстаннем.
Імгненне не паўторыцца нанова...
А ўсё-такі, відаць, аддам палову.
І трох начэй працяг, як існаванне.
Як невыносна ўзыдзе ранне. Старой
Ці новай датай. Зноў свята страты.
Не вінавата ты! Не вінавата...

* * *

Дай руку, маё каханне!
Час пяшчоты
Нам зажурыць вочы
І адных пакіне ў свеце цэлым.
Апусціўшы таямнічае крыло,
Захіне нас сораму цяпло,
І святлом —
Адзеннем месяца сагрэтыя —

Па-святому
Будзем грэшныя
Мы ў свеце гэтым.
І святыя
Будзем па-зямному.

* * *

Гэта летняя бяссонніца,
Гэты хмельны сенакос!
Будуць сніцца, будуць помніцца
У разводдзі рыжых кос.

І каму ў стагах заблудзіцца
Аж да самага відна?
Не забудзецца, не забудзецца! —
Не твая віна,

Што туман быў па калена
Ці па пояс ёй,
Што падушка пахла сенам
І прымятай цеплынёй.

* * *

Сполахі зорнай красы
Цёплыя студзяць сляды.
Выткалі ножкі сюды
Вузкую сцежку з расы.

Яблыкапад, зарапад —
Яблык з зямлёй спатыкнуўся.
Радзімку шукаюць вусны
Уцёначы неўпапад.

### БАБІНА ЛЕТА

Сонца перакулілася ў сад,
Разлілося,
Разбілася на часцінкі
І звініць спелымі яблыкамі
У дзень бабінага лета;
Неба пасыпана попелам
Згарэлага лета,
Пераблытана срэбрам павуціння,
Так густа стаптана слядамі,
Што няма месца
Для апошняй нашай сустрэчы;
І я адзін
Ціха ступаю ў сад,
Як у цёплае маленства,
З таемнай трывогай сачу
За небам нашага расстання,
За бронзавымі калонамі яблынь,
Якія падпіраюць
Васковы дах лістоты
Бабінага лета.

* * *

Прагоніш з парога. Такі ўжо мой лёс —
Пакорнай сыходзіць дарогай. Вячэрнім
дажджом.
Глыбокай слязою. Прыглушаным громам.
Каменнем шурпатым ля веснічак дома
Мне прарастаць, як растануць снягі.
Добраю будзь. Не кідай мною ў другіх.

* * *

Восені праводзіны,
Дзень на права выбару.
Што я сёння выберу
З тых дарогаў пройдзеных.

Тое, што памечана
Лугам недакошаным,
Вэлюмам замецена,
Снегам запарошана.

Болей не вяселіцца
Голас твой прыцішаны,
Адцвіла мне вішняю
Радасць за аселіцай.

Восені праводзіны.
Горыч дымам выспела.
Шчасце пылам выпала
На дарогах пройдзеных.

І жыву адзіны я
Трапяткой надзеяю.
Буднямі й нядзелямі,
Сувяззю з радзімаю.

## СУЛА

«Ой, рэчанька, рэчанька...»
У чаўне ціхім плёсам
Непрыкметна, як белыя вёсны,
Звечарэлая песня сплыла.
Сула...

Чакае, сумуе паром,
Аціхае вясла лёгкі плёскат.
Першацвету спадаюць пялёсткі,
Хоць вішня яшчэ не цвіла...
Сула...

Няма ўжо тае пераправы,
А мне заставацца на левым,—
Табе заставацца на правым.
Між намі масты развяла
Сула...

«Ой, рэчанька, рэчанька...»
У чаўне ціхім плёсам
Непрыкметна, як белыя вёсны,
Звечарэлая песня сплыла.
Сула.

## КУПАЛЛЕ

І зблізку, і здалёк
Трапеча пад рукою,
Як птушка, васілёк,—
Ён ад расы прамок,
Напоўнены тугою
Купальскага вянка.
Што ж ты маўчыш, рака?
І галасоў не чуеш?
Няўжо так адвякуе,
Зязюлькай адкукуе
І стане горкай стратай
Паганскае свята
Дзявочага вянка?..
Гукай, гукай, рака,
Збірай свой карагод
Шчаслівы, як прычасце.
Зноў тую кветку шчасця
Паклікалі вятры
Ў ноч дзіўную шукаць...
Святлістым будзь, Купалле,
Плыві з вянком, рака.

* * *

Маладзенькае дзяўчо
Здзіўленае нечым.
Прыхіліўся на плячо
Цёплы вечар.

Малады туман падрос
Звонам над ракою.

Апусцее паравоз
І засне спакойна.

Рэха голасу твайго
Спуджана заб'ецца.
Колас к коласу хінецца
Залатою галавой.

У прысадах за сялом
Адзавецца песня.
Белым буславым крылом
Цішыня ля весніц.

* * *

Гукае рэха так далёка.
Іскрынкі радасці ў вачах.
А вусны цёплыя гарчаць
Рабінавым даспелым сокам.
За вёскаю захмелены прастор,
І ў цішыні аддаленых аселіц
Шчыміць знаёмы шум вяселляў
Таемнасцю падатлівай рукі.
Нагрэты вецер ля шчакі
Спалохаюць тугія маразы,
І літасці папросяць палазы.
Над стрэхамі ўзвіецца лёгкі дым.
Найшчаслівей, найлепей маладым!
Сягоння ім ад шчасця — «горка».
Ляцяць вазы, бы санкі з горкі.
І як тады — іскрысты смех.
Шкада не гэтай маладой,

А той,
Што лёгкім белым ценем
Перакулілася шчаслівa ў снег...
І як тады —
падглядвае, цікуе
Маладзікова зайздраснае вока...
А вусны цёплыя гарчаць
Рабінавым даспелым сокам.
...Сплыло ўсё талаю вадой,
Мне б побач ехаць з маладой.
Не з гэтаю — а з той
Ухутацца духмяным сенам...
П'юць на вазах дзядзькі па сто,
Снягі прадвесня па калена.

* * *

У самае лепшае верыць,
З дарогай сваёю ўжыцца —
Заплешчацца зорка ў цемры,
Як жаваранак над жытам.
Пазыўныя далёкіх галактык,
Як сэрца тваё, трапечуць.
І падаюць ціха на плечы
Пялёсткі з яблынь за хатай,
Каб восенню гушкаць ранеты
І гэтым прымець сваё шчасце.
Адчуеш тады ў запясці
Ты пульс веснавой планеты.
Нам молада, чуйна жывецца.
Дарога,
крыло
і колас радзімы...

І ўсё гэта проста завецца
Бацькоўскім кутком адзіным.
Яму прысягаць нам на вернасць,
Каб ясна глядзець,
адкрыта.
Заплешчацца зорка ў цемры,
Як жаваранак над жытам.

## ДА НЕБА

Да неба ўздымаюцца рукі —
Жыць, пець, дыхаць.
На зорку свайго шчасця
Ісці бясконца рупіць.
Раздзеляцца цемра, святло,
І выбар толькі між імі.
Ці грэшнымі,
Ці будзем святымі
Толькі б слова
праўдзівым было.
І мужнасці толькі б хапіла
Назваць белае — белым.
І чорнаму ў вочы смела
Глядзець хапіла б сілы.
Раздзяліўшы быццё-небыццё,
У чалавеку шукаць чалавека.
Не стаяць на пакорных каленях
Ні ўчора,
ні заўтра,
ні ў гэта імгненне,
А значыць, і ўсё жыццё.

ЗМЕСТ

ДОМ



НАД ВЕЧНАСЦЮ ГНЯЗДА

ПТУШКА РАДАСЦІ

**Рубін І.**

Р 82 Над вечнасцю гнязда: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 55 с., іл.— (Першая кніга паэта).

20 к.

Іван Рубін — паэт мірнага, пасляваеннага пакалення аратых на ніве роднага слова. Пільны позірк, які бачыць і кожную зямную адмеціну і зоры ў небе, скіраваны ў дзень заўтрашні.

Р $\frac{4702120200-048}{М302(05)-84}$ 80—84 ББК 84Бел7 Бел 2

*Первая книга поэта*

Иван Ильич Рубин

НАД ВЕЧНОСТЬЮ ГНЕЗДА

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак І. М. Вудіч. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар В. М. Хлебавец.

ІБ № 1999

Здадзена ў набор 31.10.83. Падп. да друку 09.01.84. АТ 01007. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,05. Ум. фарб.-адб. 3,44. Ул.-выд. арк. 2,12. Тыраж 2000 экз. Зак. 4157. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

